16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

7 • 2019
ліпень

Гэта ты так збіраешся ў лазню?

Сяргей ВОЛКАЎ і Міхась КАВАЛЁЎ.




# Каб пыталі і — куплялі!













Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




## Вывелі...

***Магілёўскі раён.*** У народзе кажуць, што добрага каня на рынак не выводзяць. І, як пераканаліся кантралёры, добрых кароў і быкоў — таксама. Чаму ж тады некаторыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы прадаюць шмат скаціны? Ды каб схаваць яе падзеж!

Супрацоўнікі фінансавай міліцыі вывелі на чыстую ваду службовых асоб трох арганізацый АПК. Яны ўносілі ў справаздачы заведама несапраўдныя звесткі наконт выбыцця жывёлы.

Узбуджаны крымінальныя справы.

## Поўны не спакой

***Беларусь.*** Махляр і авантурыст, «вялікі камбінатар» Астап Бэндар сцвярджаў, што «поўны спакой можа даць чалавеку толькі страхавы поліс». І — памыляўся!

Адна грамадзянка патэлефанавала ў страхавую арганізацыю, з якой у яе быў заключаны дагавор, і папрасіла выслаць гарантыйнае пісьмо ў медыцынскую ўстанову. Але папер не дачакалася і вымушана была сама аплаціць паслугі. Потым сітуацыя паўтарылася... Кампанія даслала патрэбны дакумент толькі праз некалькі дзён пасля аказання паслуг і іх самастойнай аплаты жанчынай. Пасля чарговых тэлефонных разбораў небарака звярнулася ў офіс да страхаўшчыка, дзе ёй нарэшце зрабілі разлік сумы і адправілі ў банк па грошы.

Вось такі поўны не спакой, ды яшчэ і за свой кошт...

## Ударнікі папяровай працы

***Гомельская вобласць.*** На прадпрыемстве па вытворчасці станочнага абсталявання з'явіліся кіраўнікі-«стаханаўцы». Ударнікі папяровай працы! Па ўказаннях намеснікаў дырэктара штомесяц складаліся фіктыўныя справаздачы пра выпуск прадукцыі. Усяго летась было зроблена больш чым 150 неіснуючых станкоў. За «выдатныя» вынікі працы начальнікі атрымалі надбаўкі ў памеры звыш за 28 тысяч рублёў. Фіктыўныя справаздачы прыносілі рэальны даход.

Сапраўднай будзе і адміністрацыйная адказнасць у адносінах і прадпрыемства, і такіх ударнікаў.




Пётр КОЗІЧ.

## Усё роўна ў лес...

***Мінск.*** Лічыцца: колькі ваўка не кармі, ён усё роўна ў лес глядзіць. Мінчанка, якая ўжо была асуджана за службовае злачынства, пасля вызвалення зноў узялася за старое. Працуючы галоўным бухгалтарам сталічнай фірмы, яна пералічыла за два гады больш чым 90 тысяч рублёў на рахункі падкантрольных ёй камерцыйных структур, зарэгістраваных на мужа і свёкра...

Зараз ашуканка рызыкуе зноў трапіць у «лес».

## Час — грошы

***Барысаў.*** Бенджамін Франклін лічыў, што час — гэта грошы. Праўдзівасць слоў амерыканскага палітыка пацвердзілі на ААТ «Барысаўскі кансервавы завод». Тэрмін годнасці больш чым 40 тысяч бляшанак кансерваванай прадукцыі скончыўся раней, чым тавар паспелі прадаць.

Кантралёры і фінансавыя міліцыянеры падлічылі, што ў выніку прадпрыемства страціла не менш за 47 тысяч рублёў.

Вось так нехта з часам знаходзіць грошы, а нехта — губляе...

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***




**Братка Вожык!**

«Нечаканыя вывады вучоных: максімальнае шчасце чалавек атрымлівае ад адпачынку ў 3-5 дзён», — такую цікавую цытату я пабачыў на першай старонцы газеты «Комсомольская правда» в Белоруссии» (№ 97 (5008) ад 25 мая 2019 года). Назва артыкула Яраслава Карабатава «Если в отпуск — то по-научному» заінтрыгавала яшчэ больш...


Неожиданные выводы ученых:
МАКСИМАЛЬНОЕ СЧАСТЬЕ ЧЕЛОВЕК ПОЛУЧАЕТ ОТ ОТПУСКА В 3 - 5 ДНЕЙ

Высветлілася, што нідэрландскі прафесар Йерун Навен знайшоў ідэальны тэрмін адпачынку. Ён апытаў турыстаў з розных краін і высветліў, што найбольшае задавальненне людзі атрымліваюць ад канікул у 3-5 дзён. Гэта той самы перыяд, калі можна не толькі не стаміцца ад новых уражанняў, але і не паспець пасварыцца з сям'ёй ці сябрамі.

Цікава, вядома, і пазнавальна, але я ў гэтым пытанні кансерватар. І згодны адпачываць не 3-5 «шчаслівых» дзён, а хаця б 28 «маркотных». Прабачце, навукоўцы!..

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




**Вітаю цябе, шаноўны сябра!**

Вось і я таксама звярнуў увагу на небяспечнае, на мой погляд, суседства навучальнай і піцейнай устаноў (на праспекце Незалежнасці, 45 і 47) — гімназіі № 23 і віннага магазіна і бара «Owino».

Зразумела, што на белым свеце павінны існаваць розныя арганізацыі. Некаму трэба вучыцца, некаму — лячыцца, некаму — выпіваць і закусваць... Але ж, відаць, мусіць быць нейкая дыстанцыя. Каб не атрымалася потым, як у той прыказцы: «Позна калодзеж капаць, як хата гарыць»...

Вось такая ў мяне трывога. А як думаеш ты, паважаны Вожык?

**Сяргей ТУЗ,**
*г. Мінск.*

**Прывітанне, дарагі Вожык!**

Відаць, усе ведаюць, што хто гарэлку любіць, той сам сябе губіць. Нашае заканадаўства строга падыходзіць да «нецвярозай» праблемы. Напрыклад, забараняецца гандляваць алкаголем у розніцу ў памяшканнях, дзе знаходзяцца ўстановы адукацыі. Але пра тэрыторыі каля такіх арганізацый нічога не сказана. Таму моцныя напіткі часам прадаюць побач з... навучальнымі ўстановамі.

Сёлета на вуліцы Янкі Лучыны ў некалькіх хвілінах хады ад сярэдняй школы № 130 імя Рут Уолер (дом 16) адкрылася фірменная крама «Мінск Крышталь» (дом 10). Навошта? Навокал хапае тых жа гіпермаркетаў, дзе можна набыць у тым ліку і алкагольныя напоі.

Можна запярэчыць, што дзеці забаронена не дастануць. Але ж цыгарэты яны неяк знаходзяць?

На жаль, слушныя словы пра барацьбу з алкагалізмам ніяк не стасуюцца з небяспечным суседствам школы і новай крамы. Або сапраўды гэта той выпадак, калі правая рука не ведае, што робіць левая?..

**Вольга КАВАЛЬ,**
*г. Мінск.*






**Добры дзень,**
**калючы дружа!**

Геракліт лічыў, што ўсё цячэ, усё змяняецца. І калі нават у Афрыцы часам ідзе снег, а магнітныя полюсы Зямлі павольна перамяшчаюцца, то менш глабальныя рэчы тым больш не застаюцца нязменнымі.

Напрыклад, на сцяне дома па вуліцы Аэрадромная, 17а вышэй шыльды добра бачна белая пляма. Цікава, што гэта? Былое месца таблічкі, якая «пераехала» ўніз? А можа, побач планавалі пабудаваць яшчэ адзін корпус і таму пакінулі месца для яго назвы? Версій шмат...

І што будзе далей з шыльдай? Магчыма, яна перамясціцца яшчэ бліжэй да зямлі. Або, наадварот, вернецца наверх... Ці белае месца на сцяне нарэшце зафарбуюць, а нумар дома застанецца?

Пажывём – пабачым...

**Вераніка ВЕРАБЕЙ,**
*г. Мінск.*





Алег ГУЦОЛ х 2.



Аляксандр ПЯТРОЎ.












Алег ПАПОЎ х 4.




**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

## Вясковы Галівуд

Неяк сустрэў знаёмую кабету з суседняй вёскі – Зосю. Працуе на ферме. Раней была даяркай, а цяпер з гонарам называе сябе аператарам машыннага даення. Нядаўна гучна адсвяткавала 50-гадовы юбілей.

– Як жыццё-быццё, Зося?

– Нішто сабе. Жыць можна.

Я шчыра павіншаваў кабету, пажадаў здароўя ды дабрабыту.

– А як жа адзначылі юбілей?

– Як звычайна, – паціснула яна плячыма. – Сабраліся сваякі, суседзі... Вядома, было і чаркаванне, і частаванне. Спявалі, скакалі... Галівудзілі ажно да рання.

Вось яна, глабалізацыя! Нават вёска не святкуе дзень народзінаў, а – галівудзіць.



## Лавіся, рыбка!

Росным вераснёвым ранкам шыбую ў суседнюю вёску па малако. Ісці трэба амаль тры вярсты. Туды тры ды назад гэтулькі ж – добрая праходка.

Прайшоў лясок, мінуў пару хутароў – вось ужо і вёска відаць, чуваць, як шуміць вада цераз плаціну. Некалі меліяратары пракапалі глыбокую канаву, перагарадзілі невялікую рачулку, утварыўся ладны вадаём.

Здалёк убачыў двух рыбакоў.

– Добрай раніцы! Як улоў? – вітаюся і пытаюся здалёк.

– Ніякі. Адно задавальненне. Сонца свеціць, вецер дзьме... Жыві ды радуйся! – адказвае адзін.

– Важны сам працэс, – дадае другі. – Вы ж некалі пісалі, што ў Амерыцы рыбу ловяць і выпускаюць назад, у ваду.

Авохці мне! Аказваецца, гэтыя незнаёмыя хлопцы ведаюць мяне, нават нешта чыталі...

Неўзабаве вяртаюся з важкім трохлітровікам сырадою. Бачу, як узлятае ўгору вуда і на кручку трапечацца чырванапёрая, паласатая рыбіна.

– Ого, які акунёк! – радасна крычыць рыбак, для якога важны сам працэс рыбнай лоўлі. – Грамаў на дзвесце пацягне. Каб яшчэ такіх пару, была б добрая юшка. А назад улоў хай выпускаюць амерыканцы. Яны ўсё ловяць у супермаркеце...

Мужчыны дружна зарагаталі, а я – з імі. Пажадаў ім добрага ўлову і пакрочыў дадому.

## Кацька-вундэркінд

Адна сяброўка тэлефануе другой.

– Шкада, што ты не змагла прыехаць на дзень народзінаў маёй унучкі.

– Але, ды нявыкрутка была...

– Мы ж так добра пасядзелі! Каця наша гасцям і песеньку пра бярозку праспявала. У садку навучылі. І па-англійску да дваццаці палічыла. Гэтаму ўжо я вышкаліла... Затое потым мне было хоць скрозь зямлю праваліся!

– А што здарылася?

– Клічу яе: «Кацюша, госці адыходзяць...» Маўляў, час развітвацца. А яна на ўвесь голас: «Ну і дзякуй богу!» Я анямела. Госці моўчкі пераглянуліся і хутчэй засбіраліся. Пэўна, падумалі, што падвучыла. А мы ж, здаецца, ніколі нічога такога пра гасцей не казалі. І дзе толькі пачула? Во, цяперашнія дзеці. Усё сякуць. Вундэркінды!..

## Як чорт малады!..

Аднойчы шэрым восеньскім днём захацелася патэлефанаваць заўзятаму пчаляру дзядзьку Рыгору.

Пагаварылі пра пчол, пра мядовы сезон...

– Ну, а як здароўе? – цікаўлюся я.

– Здароўе па ўзросце, – бадзёра адказвае дзядзька Рыгор. – Мне ж вясною стукнула семдзесят пяць. Без барады, як чорт малады!.. Дзеці, унукі – у горадзе. Жыву адзін, раблю, што хачу, і нікога не баюся, – зарагатаў ён.

Я пажадаў калегу-пчаляру багатага медазбору на будучы год, а добрага настрою – на кожны дзень.

На гэтым развіталіся. Зірнуў у акно і здзівіўся: шэры восеньскі дзень пасвятлеў...

## Кульбаку кінь зломy сабаку

Неяк разбалелася нага: калена распухла, без кульбы не ступіць... З палкаю і прыехаў у горад. Шкандыбаю цераз двор да тралейбуса, каб даехаць да паліклінікі.

Гадзіны праз дзве вярнуўся дамоў. Толькі ўвайшоў у кватэру, тут жа заліўся звонам тэлефон.

– Здароў, сусед! – чую глухаваты, але вясёлы голас знакамітага паэта Міколы Чарняўскага. – Што здарылася? Чаму з кульбаю? Маладзіца якая падбіла?

Я расказаў, што крыху перастараўся на сваіх сотках. Ведама, восень – работ восем.

– Гэта бывае. А ты кульбаку кінь зломy сабаку!

Вясёлае пажаданне з нечаканай рыфмай вельмі ўсцешыла мяне, я ажно зарагатаў. Здаецца, і калена сцішылася, перастала балець. Нацёр яго гелем, які прапісаў доктар, заматаў цёплым шалікам. Нанач яшчэ зрабіў гэткую ж працэдуру.

Назаўтра выйшаў з кватэры ўжо без кульбы. Гляджу: каля суседняга пад'езда стаіць Мікола.

– Ну што, дапамагла мая парада?

– Факт! Ты як у ваду глядзеў!

Мы па-сяброўску абняліся.

– І ўсё ж, дарагі мой сусед, на зямлі вельмі не надрывайся. Не бяры на пуп. Не забывайся на ўзрост. І за маладзіцамі не лётай. Яны самі прыйдуць, калі паклічаш, – пажартаваў Мікола.

Я міжволі падумаў: як добра, калі па суседстве жыве цудоўны паэт і вельмі дасціпны гумарыст!..






# ПАДАРОЖЖА З УСМЕШКАЙ

*Вы марылі здзейсніць гумарыстычную вандроўку па розных краінах і нават кантынентах? Тады ў нас добрая навіна: у такое адмысловае завочнае падарожжа запрашае рагачоўскі літаратар Міхась СЛІВА. Прычым з мінімальнымі выдаткамі: варта толькі адгарнуць першую старонку яго новай кнігі «Ідэальная жонка (паводле твораў замежных пісьменнікаў)» — і вясёлы адпачынак забяспечаны.*

*Зборнік пабачыў свет сёлета ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» (серыя «Несур'ёзна пра сур'ёзнае»). Дзякуючы аўтарскаму перастварэнню кароткіх апавяданняў, гісторый, баек у прозе можна даведацца, з чаго смяюцца французы, італьянцы, амерыканцы, нашыя суседзі — украінцы, расіяне, палякі...*

*Зрэшты, няцяжка пераканацца, што гумар у кнізе, хоць і мае «імпартнае» паходжанне, вельмі блізкі і нам, беларусам. Трэба аддаць належнае мастацкаму густу Міхаіла Мітрафанавіча: ён адабраў для апрацоўкі сапраўды лепшыя ўзоры творчасці калег па пяры. Камічныя сітуацыі, жыццёвыя калізіі, дасціпныя жарты — усё працуе на адну мэту: праз усмешку навучыць чытачоў быць больш сумленнымі, уважлівымі, спагадлівымі.*

*Віншуем аўтара з новым творчым поспехам і шчыра рэкамендуем гэтае выданне ўсім аматарам якаснага сакавітага гумару.*






## Ідэальная жонка па меркаванні будучага маладажона

*(паводле Марыян АНТААН, Фларанс РЭМІ, Францыя)*

Жонка — гэта сапраўды евангельская жанчына.

Ранак застае яе на нагах свежаю, як квітнеючая кветка, з залацістымі, як жытнёвы колас, косамі, перахопленымі сацінавай стужачкай. Ад усходу сонца яна, у эфірнай дамашняй сукеначцы, поўная лёгкай грацыі, лятае, нібы забаўляючыся хатняй працай.

Калі муж выходзіць з ваннай, жонка з усмешкай чакае яго пры англійскім сняданку, сервіраваным на вышытым абрусе. Яечня, цёплыя круасаны (іх яна купіла паблізу ў кандытара, адмераўшы дарогу туды і назад лёгкай танцуючай хадой) ды духмяная кава размякчаюць падатлівае мужава сэрца.

Жонка ніколі не ходзіць да цырульніка, а таму яе прычоска заўсёды чароўная. Яна без усялякага грыму зацяняе сваім бляскам самых славутых прыгажунь. Між іншым, жонка вельмі рэдка просіць у мужа грошай. Гэта фея, якая сама сабе шые туалеты, а тыя нязменна цудоўныя і зусім не зношваюцца. На кухні яна сапраўдная чараўніца, амаль з нічога рыхтуе смачныя стравы, кожны вечар на дэсерт падае свежы торт.

У доме ўсё ажно зззяе чысцінёй, жонка ніколі не стамляецца наводзіць бляск на мэблі. І ўсюды — кветкі!

Пасля вячэры жонка сядае за піяніна і закалыхвае мужа лёгкай, а то і меланхалічнай мелодыяй, пакуль той курыць сваю амстэрдамскую люльку і верны сабака ляжыць, раскінуўшыся, каля яго ног.

Жонка сустракае гасцей як сапраўдная свецкая дама з шырокім сэрцам. Дом заўсёды перапоўнены забаўнымі сябрамі. Яны з неўгамонным апетытам глытаюць смачныя стравы, якія жонка рыхтуе ім з радасцю і бесклапотна, бо ў яе распараджэнні заўсёды ёсць нейкая шафа, забітая ўсялякімі кансервамі. Яна сама нарабіла іх за лета, таму нішто не застане яе знянацку.

Жонка ўмее пастаянна прывабліваць мужа, які бачыць у ёй усіх жанчын. Ёй уласцівы бляск Урсулы Андэрс, прывабная пышнасць Брыджыт Бардо і чароўнасць Одры Хепберн. Між іншым, калі муж крыху і пазаляцаецца да іншай жанчыны, жонка лагодна заплюшчыць на гэта вочы, бо яна ўсё разумее, усё прабачае.

Нават палітычныя спрэчкі даюць задавальненне, калі ў іх удзельнічае жонка, бо яна ніколі не імкнецца ўзяць верх, хаця і засведчвае высокі ўзровень культуры і пачуццё патрыятызму. Пра ўсіх знакамітых людзей яна ведае анекдоты — вясёлыя і зусім не банальныя, расказвае іх цудоўна.

А кожную суботу мые бялізну, што назбіралася за тыдзень.

Жонка, насуперак плыні гадоў, не старэе. Яе чысты смех штодзённа лунае ў доме, а яе пяшчотная ўсмешка іскрыцца маладосцю.

А калі, пасля таго як пажэніць ды павыдае замуж васьмёра сваіх дзяцей, яна ў канцы свайго жыцця, абавязку і шчасця ўздыхне, то зробіць гэта так стрымана, што муж ледзьве заўважыць.



# Малюе Анатоль ГАРМАЗА


















# Як я НЕ адпачыла ў Турцыі

*Фельетон*




*Вытрымкі з інтэрнэт-блога турысткі ў думках Крысціны Жылкавай (Kristina_Zhilkova) і каментарыі да іх чытачоў*

*12 лістапада 2018 года*

Ужо вырашыла, што буду адпачываць у маі наступнага года за мяжой. З напрамкам вызначылася – Турцыя, засталося падабраць турыстычнае агенцтва.

*19 лістапада 2018 года*

Вельмі шмат прапаноў ад аператараў! Спынюся ўсё ж на гэтай – пуцёўка ў Анталію ад ТАА «Сонца тур». І скідка значная – 50 працэнтаў! Ніхто больш такіх цэн не прапаноўвае.

*26 лістапада 2018 года*

Нарэшце знайшла час і забраніравала ў офісе агенцтва тур. І поўнасцю ўнесла передаплату. Напачатку сумнявалася: да 14 мая яшчэ далёка, нешта можа змяніцца, а тут усе грошы трэба аддаць... Але менеджар супакоіў: ахвотнікаў адпачыць шмат, таму фірма перастрахоўваецца.

*31 снежня 2018 года*

Ужо ведаю жаданне, якое загадаю ў святочную ноч: няхай час праляціць хутка і я добра адпачну. Надакучыла бачыць мора толькі на фотаздымках у інтэрнэце!

*1 сакавіка 2019 года*

Часу весці дзённік няма: пасля працы займаюся на курсах англійскай мовы. Вырашыла асвяжыць старыя веды перад водпускам. Яшчэ пару месяцаў – і можна будзе не думаць пра розныя клопаты і турботы, адно адпачываць...

*13 мая 2019 года*

Патэлефанавалі з агенцтва і папрасілі прабачэння: паездка пераносіцца на тыдзень. Вялікі дзякуй, што не перад адлётам папярэдзілі!.. Але можна крыху пачакаць: на працу выходзіць у чэрвені.

*20 мая 2019 года*

Ізноў чую знаёмы голас. Менеджар кажа, што ў наступны аўторак я абавязкова буду ў Турцыі, а не ў Мінску.

Пачынаю злавацца: чаму палову свайго водпуску павінна чакаць каля мора пагоды? Патрабую вярнуць грошы! Суразмоўнік мармыча нешта ў трубку, і я абяцаю заехаць у офіс заўтра.

*21 мая 2019 года*

На знаёмым месцы не знаходжу ні фірму, ні супрацоўнікаў. Вартаўнік на першым паверсе шматпавярховага будынка тлумачыць, што я не адна, хто шукае ТАА «Сонца тур». Агенцтва з'ехала напачатку мая...

Разумею, што мяне падманулі, і здагадваюся, дзе праведу другую палову водпуску, – у міліцыі.

Цікава, ці траплялiся вам такія махляры? Або толькі я такая турыстка ў думках?

## Каментарыі чытачоў

*Anna_S.* Я летась заказала тур у сталічнай кампаніі «Солід» і пашкадавала. Унесла ўсю перадаплату, нікуды не паехала — і грошы не вярнулі. Радуе, што гэтай несумленнай кампаніяй займаюцца следчыя.

*Viktar_Viktar.* А мне пашанцавала: збіраўся набыць пуцёўку ў аператара «Сандалі трэвел» гады чатыры таму. Але пасля свят грошай не засталося... А цяпер выпадкова даведаўся, што дзесяць людзей заплацілі за паслугі агенцтва больш чым 29 тысяч рублёў. Жанчына, дырэктар фірмы, і не збіралася выконваць абяцанні: траціла грошы, як хацела... Узбуджана крымінальная справа за ашуканства.

*Aleg_Vitebski.* А ў нашым горадзе дзейнічала кампанія «Лакоста Тур». Дванаццаць віцяблян аддалі свае грошы, а ўзамен атрымалі... фіктыўная дагаворы, страхоўкі і білеты. На жаль, пра такі падман некаторыя турысты даведваліся ўжо за мяжой. У адным выпадку, напрыклад, хлусня высветлілася ва ўкраінскім аэрапорце «Барыспаль»... У adносінах кіраўніка арганізацыі таксама ўзбудзілі крымінальную справу.

*Kristina_Zhilkova.* Бачу, што не адну мяне падманулі. Пэўна, ёсць нейкія парады для такіх даверлівых адпачываючых, як я...

*Viktar_Viktar.* Я цікавіўся гэтай тэмай! Вось мае парады. Трэба ўважліва выбіраць турагенцтвы. Лепш, калі яны ёсць у Рэестры суб'ектаў турыстычнай дзейнасці на сайце Міністэрства спорту і турызму. І няхай пакуль падаваць звесткі ў гэтую базу не абавязкова, але надзейны аператар хутчэй за ўсё будзе ў ёй, бо даражыць рэпутацыяй і кліентамі. Таксама можна пaглядзець, ці ўваходзіць фірма ў галіновыя саюзы, напрыклад, Рэспубліканскі саюз турыстычных арганізацый, Рэспубліканскі саюз турыстычнай індустрыі. Упэўніцеся, што кампанія зарэгістравана і не навічок у турыстычнай галіне. І таксама не верце вялікім скідкам: кампаніі не будуць працаваць без прыбытку, гэта ж не дабрачынныя фонды!..

*Kristina_Zhilkova.* Вялікі дзякуй! Зараз многае зразумела і задумалася... Спадзяюся, наступным летам адпачну па-сапраўднаму і не памылюся з агенцтвам. Стану сапраўднай турысткай, а не ў думках!

**Інтэрнэт-блог і каментарыі да яго чытала Алена КЕДА.**




*Mikita_N.* Здаецца, што такія агенцтвы працуюць усюды! І Гродна не выключэнне. Летась жанчына, дырэктар кампаніі «На чамаданах», аформіла пяць дагавораў, а атрыманыя ад кліентаў звыш за 25 тысяч рублёў забрала сабе... Правяраецца версія пра захапленне кіраўніка стаўкамі ў букмекерскіх канторах.




# НЕ ТОЙ ГРЭХ...

Уздыхае цяжка Поля,
Што ў яе благая доля.
«Перамкнула» ў мужа нешта,
Нервы выматаў дарэшты.
Так, раней, у маладосці
Быў Пятрусь нярэдкім госцем
У прыгожанькіх кабет.
Той сюжэт стары як свет!
Колькі раз яго ўшчувала,
Валасы каханкам рвала...
За такія за грахі
Меў Пятрусь паёк сухі.
Муж – даўно ўжо не салага –
Зноў на баб звяртае ўвагу.
Швэндаецца да Анэты...
Ну якія ў іх сакрэты?
Скардзіцца суседцы Поля:
– Мне залётаў тых даволі!
Выдае на гэта Люся:
– Бараніць я не бяруся
Твайго мужа, толькі ён
Вельмі ж любіць самагон.
Зрэшты, як і мой Антось,
«Хобі» гэткае ў іх ёсць.
Ходзяць да Анэты ўдвух,
Маюць вельмі добры нюх.
Чуюць – невядома, як –
Калі капае пяршак.
Блудам там зусім не пахне!
Кожны з іх кілішак «гахне» –
І ў вачах ажно святлее...
А Анэта багацее!
Быццам добрая навіна,
Поля дзякаваць павінна.
Ды ў адказ – са злосцю: «Эх!
Хоць не той, а ўсё-ткі грэх!»

**Галіна НІЧЫПАРОВІЧ,**
*Уздзенскі раён,*
*в. Магільна.*









Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ х 3.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Пётр ДАРАШЧОНАК.

# АНЕКДОТЫ
## ПРА БЯЛЯВЫХ

Дзве бландзінкі шпацыруюць па лесе. Раптам бачаць — яшчэ адна бландзінка спрабуе літаральна пераплысці пшанічнае поле: рукамі з усіх сіл размахвае, нагамі ў зямлю ўпіраецца — карацей, плыве!..

Адна бландзінка кажа другой:

— Вось бачыш, з-за такіх ідыётак, як яна, пра нас, бландзінак, і складаюць анекдоты!

— Ага, сапраўды! — адказвае тая. — Каб я ўмела плаваць, дык гэтую дурніцу ўтапіла б!..



* * *

Пытанне ў інтэрнэце ад бландзінкі: «Прыгледзела сабе будучага мужа! Падкажыце, куды падзець ягоную жонку?..»

* * *

— Чаму бландзінкі не катаюцца на водных лыжах?

— Таму што ніяк не могуць знайсці возера з ухілам.



* * *

Бландзінка скардзіцца маладому чалавеку па тэлефоне: «Так, я не ем пасля васямнаццаці! Вось схавала ад сябе шакаладку і... усё адно знайшла! Мяне не ашукаеш!..»

* * *

Размаўляюць дзве бландзінкі:

— Уяві, сёння зайшла ў аўтобус — і адразу трое прыгожых маладых людзей саступілі мне месца!

— Ну, як, табе хапіла? Гэта ж так распаўнець!..

* * *

Бландзінка на святлафоры:

— Мне здаецца, што гэтыя агеньчыкі нешта азначаюць!..



* * *

Сядзяць дзве бландзінкі за столікам у кафэ.

Адна раптам заяўляе:

— Нейкая дзіўная сёння кава!

Другая пярэчыць:

— Ты што, дурніца? Гэта ж чай!

Падыходзіць афіцыянт:

— Дзяўчынкі, яшчэ какавы?





* * *

Бландзінка ўжо год не можа запісацца да цырульніка, бо... дзяўчына не павінна тэлефанаваць першай!

* * *

Бландзінка кажа фінансаваму кансультанту:

— Я вельмі хацела б укласці свае грошы ў падаткі! Кажуць, што яны вельмі хутка будуць расці!..

**Расказваў Аляксандр ЗОТАЎ.**



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# ЭХ, ЛЕТА!

Мікола МЯТЛІЦКІ

## На строме



Толькі месяц запрыкмеціў –
Над хваінамі стаяў –
Як цябе ў гарачым леце
Я на строме цалаваў.

А рака журчэла зорна,
Плыткаводная, цякла.
Ноч была, як сажа, чорнай,
Радасць – светлаю была.

І цяпер на строме гэтай,
Хоць з вадой сплылі гады,
Меданосна спее лета,
Хмельны водар малады.

Не заіржавее ў стоме
Сэрца слухаць зорны спеў.
Зноўку мы з табой на строме,
Зноўку юр мой ускіпеў.

## Баравікі

Чакаю першы баравік –
Лічу ў самоце дні.
Здаўна я сустракаць прывык
Той цуд у цішыні.

Вачамі пільна дол стрыгу –
Ігліца, мяккі мох.
Знаёмай сцежкаю бягу,
Збіваючыся з ног.

І вось, нарэшце, – глянь які!
Калі ж ён вырас? Зух!
І побач – два баравікі,
І тры – ля гэтых двух.

О, іх тут цэлая сям'я,
Пайшлі нябачна ў рост!
І радасць грыбніка мая
Шыбуе ўслед наўпрост.

І вось ужо не лес – а храм,
Дзе я маліцца рад
Усім дажджам, усім вятрам
На свой прывычны лад.

А што грыбы? Не ў тым іх смак,
Каб есці і варыць.
Ды могуць грыбніка, аднак,
Як срэбрам, адарыць.

І я вяртаюся ўпадскок,
Пачуўшы дужасць крыл.
І кожны мой наступны крок
Больш прыбаўляе сіл.



Уладзімір ЦАНУНІН

## Такая доля...




Масляк-мацак сядзеў між дрэў,
Схаваўшыся ў суніцах дзікіх.
А побач густа чырванеў
Пад елкай Мухамор вялікі.

Зашамацелі верасы,
Дажджом сыпнула з паднябесся.
Данесла рэха галасы:
Там грыбнікі ішлі па лесе.

У Мухамора на душы
Самотна стала. Ён і кажа:
– Напэўна, знойдуць у глушы...
Такая, братка, доля наша.

Ды ведаю без лішніх слоў:
Цябе ў кашэль пасадзяць потым,
Каб несці з гонарам дамоў.
А мне – па мордзе трэснуць ботам!

## Угу і ого



Ляціць пугач праз цёмны лес,
Чуваць «угу» яго.
У дрэва ў цемры раптам – трэсь!
І сам сабе: «Ого-о!..»

*г. Вілейка.*

Васіль НАЙДЗІН

# ДВА БАКІ АДНОЙ СПРАВЫ

## На беразе

— Ведаеш, — гаворыць адзін рыбак другому, — цяпер не тое, што раней было. Заўважаю, рыба ў нашых мясцінах нейкай разяватай стала. Бывала, паўзком да аблюбаванага месца дабіраешся. Ціхутка сядзеш на беражку, закінеш асцярожна вуду — і не дыхаеш. Ды каб насадка была прываблівая, лёска тоненькая... А цяпер што? Мы з табой галопам прымчаліся? Галопам. І іншыя вунь пруць. Не едуць кудысьці далёка, а сюды... Насадка — плюнуць хочацца. А вось глядзі — торкае. Ды як яшчэ торкае!.. Так-так-так! Давай, давай, хадзі сюды. Ёсць!..

І добры лешч з сумнымі вачыма ляжаў ужо смірненька на беразе.



## У вадзе



Каля карча сабраліся блізкія і знаёмыя старога ляшча. У мутнай вадзе яны жаласліва глядзелі на свайго суродзіча. Да слізкага кораня прыхінуўся той. І ад ляшча, і ад кораня несла адходамі з мясцовага завода.

— Сябры і браты мае! — сабраўшы апошнія сілы, прабулькаў лешч. — І рад бы я жыць, ды моцы няма. З жабрамі дрэнь справы. Увесь я, ад хваста да шчэлепаў, прахімічыўся... З гэтага раёна мне ўжо не выплыць. Многія заводы і прадпрыемствы адходы, бруд у раку нашу скідваюць. І не для таго я правёў бурна жыццё, каб памерці сумна. Не я першы, не я апошні... Да сустрэчы на беразе!..

І ва ўсіх на вачах схапіў лешч ледзь не аголены кручок.

# Прыпеўкі

Галасістых дзевак многа,
Як у лесе елачак.
Весялей няма нічога
Гомельскіх прыпевачак.

* * *

Весялей іграй, мілочак,
Націскай на ўсе басы,
Хай ляціць мой галасочак
Праз палеткі і лясы.

* * *

Кум казаў мне: «Ажанюся
Я з табой праз месяц, Люся».
Май прайшоў і красавік,
Балбатун кудысьці знік.

* * *

Той, хто майстар цалавацца,
Будзе ружаю цвісці.
Калі жыць і не кахацца,
Можна цвіллю зарасці.

* * *

Надакучыў стары пень,
Лезе, быццам авадзень.
І ніяк не адчапіцца:
Я ў раку — і ён тапіцца!

* * *

Добра мілы прытуляе,
Сена косіць і арэ,
Пра каханне размаўляе...
Толькі замуж не бярэ.

* * *

Заплялталі валасы
Нашы маці ў дзве касы.
Мы ж, нібы бабулечкі,
Толькі круцім гулечкі.

* * *

Лепшага, чым мой Цімоша,
Вы не знойдзеце нідзе.
Ён прывабны і харошы,
Як цыбулька наградзе!

* * *

Дзеўкі злева, дзеўкі справа,
І ўсе — як сасоначкі.
Толькі лодар і разява
Не прыдбае жоначкі!

* * *

Моцна сонейка пячэ,
А на небе хмарка.
За дзяўчатамі яшчэ
Бегаю я шпарка.

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*






Алег ПАПОЎ.



Аляксандр ШМІДТ.




Алег ГУЦОЛ.




Пётр КОЗІЧ.



Аляксандр ПЯТРОЎ.




Алег КАРПОВІЧ.




## Ах: крах!

***Горкі.*** Рэдкі чалавек можа пахваліцца тым, што заўсёды задаволены абслугоўваннем прадаўцоў. А вось кліентам аднаго гандляра валютай пашанцавала. Званок на мабільны тэлефон — і неўзабаве неабходная сума замежных грошай дастаўлена куды пажадаеш. Хутка, зручна і... дзіўна: адкуль такі спрыт і такі запас валюты?

Сакрэт разгадалі міліцыянеры: у «мянялы» не было ліцэнзіі. Пры затрыманні ў спекулянта знайшлі больш чым 28 тысяч долараў ЗША, 1900 еўра, звыш за 115 тысяч расійскіх рублёў і іншыя сумы грошай.

Што ж, прадаўцу нарэшце не пашанцавала. Валютна-абменныя аперацыі пацярпелі крах... Узбуджана крымінальная справа.




## «Брат» Шарыкава

***Мінск.*** У Паліграфа Шарыкава з'явіўся «брат». Як герой кнігі «Сабачае сэрца» расказваў даверлівым людзям пра раненне на калчакаўскіх франтах, так гэты персанаж распавёў вадзіцелю маршрутнага таксі пра ўдзел у Афганскай вайне. А потым, калі яны пасябравалі, — і пра тое, што яму зараз няма дзе жыць, бо выгнала жонка. Шафёр пашкадаваў небараку і даў яму ключы ад кватэры.

Абжыўшыся, той, як і Шарыкаў, вырашыў затым «узяць усё і падзяліць». У прыватнасці, грошы новага знаёмага: паміж ім і сабой. Праўда, без дазволу апошняга: «афганец» украў 1600 тысяч долараў і ціхенька знік.

Прыхільніка творчасці Міхаіла Булгакава знайшлі супрацоўнікі крымінальнага вышуку. А з ім — і валюту...

## Набалбатаў...

***Віцебск.*** Карыстальнік пад нікам «Вольга Іванова» адчуваў сябе ў віртуальнай прасторы ў поўнай бяспецы: ананімнасць! Таму смела пакінуў у інтэрнэце каментарый з мацюкамі ў адрас прадстаўнікоў улады пад публікацыяй пра будаўніцтва лядовай пляцоўкі і басейна. Аднак слова — не верабей, выпусціш — не зловіш.

Службовыя асобы звярнуліся да міліцыянераў, і тыя вылічылі балбатуху, якая аказалася... балбатуном, супрацоўнікам аднаго гарадскога прадпрыемства. Дарэчы, ён так і не здолеў патлумачыць, навошта «пераствараўся» ў жанчыну.

Лапатун можа сесці за краты на тры гады.



## Браць за рогі

***Калінкавічы.*** Калі ў мясцовага хлопца не атрымалася пазычыць у знаёмага грошай на выпіўку, ён адлупцаваў прыяцеля і вырашыў, што самы час браць быка за рогі. А дакладней — лася. Таму ўкраў у знаёмага ласіныя рогі — вешалку... Ужо праз паўгадзіны аматар моцных напояў прадаў гэтую рэч за... пляшку гарэлкі.

Між тым, надышоў час збіваць рогі і з яго. Злачынца затрымалі...

***Па інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.***




Алег КАРПОВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.




**Міхась ПАЗНЯКОЎ**




У лянівага Янота
Вельмі цяжкая работа:
На градзе сабраць суніцы
Для сябе і для сястрыцы.

На канапу лёг Янот:
– У мяне баліць жывот!
Не магу я працаваць,
Трэба, мабыць, паляжаць.

Маці войкае: – Ой! Ой!
Што, сынулечка, з табой?
– Дрэнна мне, жывот баліць,
Пэўна, хоча ён суніц.

Маці ягад назбірала,
І Янотy добра стала.
Перастаў балець жывот,
Зноў гуляць пабег Янот.

Кліча маці на работу –
Нездаровіцца Яноту.
У яго жывот баліць,
На канапе зноў ляжыць.

Падкажыце: як Яноту
Вылечыць ляноту?

## Хітры Іванка

Вось Іванка дык Іванка!
Не прыйшоў да Пеці ранкам,
Каб яму дапамагаць
На варэнне вішні рваць.

Доўга Пеця вішні рваў
І па сябру сумаваў:
– Што з Іванкам?
Дзе дружбак?
Ён мяне падводзіць так!
Абяцаў, даваў жа слова:
«Ты чакай, абавязкова
На світанку прыбягу,
Вішні рваць дапамагу...»

Дзень згасае паступова.
Вось варэнне ўжо гатова.
Тут Іванка і з’явіўся,
Сеў за стол:
– Я не спазніўся?
Еў варэнне на ўвесь рот
І аблізваўся, як кот.
Заявіў яшчэ пры гэтым:
– Ты даруй, не мог раней,
Не забудзь наступным летам
Запрасіць ізноў мяне.






Комікс Максіма ТАРГОНСКАГА,
вучня 5-га класа СШ № 49 г. Мінска.

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## На дачу!

Мы з сястрычкай Маняй скачам:
Заўтра ўсёй сям'ёй – на дачу!
Знаем: у любым двары
Там чакаюць нас сябры.

Каля дома недалёка
Рэчка, лес шуміць, пад бокам.
Будзем плаваць і ныраць,
Грыбы, ягады збіраць.

І за мячыкам ганяцца,
І да ікаўкі смяяцца,
На кастры падсмажым сала,
Бульбы напячом таксама.

Песні звонка заспяваем –
Хай ляцяць, звіняць над гаем...
Хоць змакрэлі, але скачам:
Заўтра едзем мы на дачу!

*г. Барысаў.*

## Анекдоцікі

Маці заўважае сыну:
– Хіба так чытаюць кнігі? Ты ж прапускаеш па некалькі старонак.
– А гэта аповесць пра шпіёнаў. Я хачу хутчэй іх злавіць, – тлумачыць той.

* * *

Унучка пытаецца ў бабулі:
– А колькі табе гадоў?
– Шэсцьдзясят.
– Пакажы мне на пальчыках...

* * *

– Пеця, што ты будзеш рабіць, калі на цябе нападуць хуліганы?
– А я іх не баюся. Я ведаю дзюдо, каратэ, айкідо і іншыя страшныя словы!

**Мікола САЛАЎЦОЎ**

## Шчупак і рак

Паміж карчоў хаваўся рак.
Яго злавіць хацеў шчупак,
Бо не на жарты згаладаўся.
Ціхенька ззаду ён падкраўся
Ў палоне апетытных мар,
Ды клюшняй атрымаў удар.
Таго не ведаў наш бядак,
Што плавае заўсёды рак
Не перадам, як сам шчупак...
А хто адкажа, дзеці, як?



*г. Чавусы.*

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## ЗАГАДКІ

Прыйдзеш летам на раку –
Сядзе ціха на шчаку,
Укусіць за руку ці твар
З тонкім носікам ...



*(Камар.)*

* * *



І у будні дзень, і ў свята
Тчэ карункі ён заўзята.
Мушкі, што вакол лятаюць,
Ў сеці ... трапляюць.

*(Павука.)*

* * *

У чырвоным сарафане
Прыгажуня на паляне.



Мае крапінкі на спінцы,
Спачывае на галінцы.

*(Божая кароўка.)*

* * *

Ён заўзяты працаўнік,
Ленавацца не прывык.
Сіл ды часу не шкадуе,
Піраміду-дом будуе.



*(Мураш.)*

* * *

Дзень пры дні яны гудзяць,
Ноччу ў вулей спаць ляцяць.
І на дрэвах, і на кветках
Завіхаюцца улетку.



*(Пчолы.)*

* * *

Ён у возеры жыве,
Плавае ў рачной вадзе –
Там, дзе ціна, глей і гразь.
А завуць яго ...

*(Карась.)*



* * *

Хоць марудна, ды паўзе,
Хатку на сабе вязе –
Без акон і без дзвярэй.
Хто яна? Скажы хутчэй!

*(Чарапаха.)*

* * *

Яркі і прыгожы ён,
На палянцы летнім днём
Цешыць вока нам здалёк
Сярод кветак ...



*(Матылёк.)*

*г. Клецк.*

Займальныя міфы



Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Дамавік — хаты рухавік

Нашы продкі справядліва лічылі, што без Дамавіка і хата — не хата, і гаспадарка — не гаспадарка.

Гэтага духа часцей за ўсё ўяўлялі маленькім дзядком з сівой барадой і доўгімі сівымі валасамі. Вочы яго ў цемры павінны былі блішчэць, нібыта ў ката, бо Дамавік, як і гэтая хвастата-вусатая істота, любіць дзейнічаць ноччу.

А яшчэ, як і кот, любіць цяпло. Таму жытло сабе заўсёды выбірае за печчу. Там Дамавік адпачываў днём, а раніцай абавязкова палохаў пеўня, які з перапуду ўзмахваў крыламі і крычаў. З-за такога вэрхалу прачыналіся і гаспадары.

Яшчэ Дамавік любіў мыцца ў лазні і хвастацца венікам. Таму гаспадары заўжды пакідалі ў лазні пасля сябе крыху вады... Праўда, у многіх мясцінах лічылася, што ў лазні жыве зусім іншая міфічная істота — Лазнік, і менавіта яму гаспадары шчодра дарылі венік і гарачую ваду. Можа, і так... Тады, верагодна, Дамавік і Лазнік наладжвалі цеснае супрацоўніцтва і разам парыліся ў лазні познім суботнім вечарам. Удвух, дарэчы, зручней: і папарыць адзін аднаго маглі, і спінку сяброўку пацерці...

З Лазнікам Дамавік сябраваў. Але, калі ў хату спрабаваў падсяліцца які-небудзь іншы Дамавік, паміж імі пачыналася калатнеча. Часцей за ўсё перамогу ў ёй атрымліваў Дамавік-гаспадар — і пераможаны прыблуда з ганьбай пакідаў дом. Але здараліся выпадкі, калі вікторыю святкаваў чужак... Для гаспадароў гэта быў не лепшы варыянт. Прыблудны Дамавік не надта клапаціўся пра чужы двор, ва ўсялякім разе, спачатку. Потым усё магло пайсці на лад... Альбо Дамавік-гаспадар, сабраўшыся з сіламі, вяртаўся назад і ўсё ж праганяў нязванага госця.

Дамавік у хаце быў заўсёды адзін. Праўда, у яго магла быць і жонка — Дамавуха. Яе нашы продкі ўяўлялі сабе кабетай сярэдніх гадоў, нізенькай, тоўсценькай, нібыта дзежачка. Яна дапамагала мужу падтрымліваць парадак у хаце і вельмі не любіла неахайных гаспадароў. Ды і сам Дамавік паважаў толькі дружныя працавітыя сем'і, а гультаёў цярпець не мог. Асабліва не падабаліся яму сямейныя сваркі. Дамавік мог нават добраахвотна сысці з такой хаты — і тады ў ёй абавязкова пасяляліся злыдні і іншыя хатнія нячысцікі.

Але пра нячысцікаў пагаворым у наступны раз.




Мікола ГІРГЕЛЬ.

## Вясёлы слоўнік

АДМОЎЕ – нелюбоў да мовы.
АДПЕЦЬ – страціць голас.
АТАВІЗМ – усходні патрыярхат.
АЎТАМАТ – лаянка з аўтаадказчыка.
БАБОЎНІК – саюз феміністак.
БАЛЕТКІ – артысткі кардэбалета.
ВОДААДВОД – адключэнне вады за нявыплату.
ГАЛАВАЛОМКА – каратэ.
ЛЕГКАВУШКА – жанчына лёгкіх паводзін.

**Даслаў Анатоль ЦЫРКУНОЎ,**
*г. Мінск.*

АБАРАНАК – маленькі баран.
АРУДАВАЦЬ – дабываць руду.
БАРХАН – галоўны ў пустыні.
БУЛЬВАР – кіпень.
БЯГОНІЯ – спаборніцтвы па бегу.
ГРАМАТЫКА – лёгкая капаніца.
ДАКЛАД – прэмія.
ЗАБІЯКА – мяснік.
ЗАБЫЦЦЁ – мінулае.
ЗАВОЧНІК – пляткар.
ЗЛЫДЗЕНЬ – няўдачны час.
ЗМАРДАВАННЕ – мардабой.
КАШУЛЯ – смачная каша.
ЛАКЕЙНІЧАЦЬ – пакрываць лакам.
ПАДНОС – кукіш, дуля.

**Заўважыла Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён, в. Пірэвічы.*

# Самы шчаслівы смех

*Крыжаванка*



**Па гарызанталі: 2.** Той, хто выйшаў на свой хлеб *(разм.).* **8.** Да таго цягнецца кабета, у каго звонкая ... *(прыказка).* **9.** Корань слова намякае, што на гэтым мерапрыемстве сумна не будзе. **12.** Фальшывая сенсацыя, чуткі. **14.** Месца, дзе літаральна ўсё прадаецца – у адным экзэмпляры, са скідкай толькі сёння і толькі вам. **15.** Горная парода. **16.** Бывае жывой, а бывае і мёртвай. **17.** «Вока» агнястрэльнай зброі. **20.** Госць як ... : дзе захоча, там і сядзе *(прыказка).* **21.** «Самым шчаслівым смехам смяецца ...» *(Жорж Батай, вядомы французскі філосаф і пісьменнік).* **24.** Красуня з норавам. **28.** ... прыгожай жанчыны – слёзы кашалька *(італьянская прыказка).* **29.** З'едлівая сяброўка гумару. **30.** Рухавік гандлю.

**Па вертыкалі:** **1.** Для добрага ката і ў лютым ... *(прыказка).* **2.** Драпежная птушка, што рагоча ўночы. **3.** Лепш, калі яно першае. **4.** Свату першая чарка і першая ... *(прыказка).* **5.** Курам на ... **6.** «Аб ёй мне баюць казкі-... // Вясеннія праталіны...» *(з верша Я. Купалы «Спадчына»).* **7.** Гэтае пачуццё і вераб'я робіць смелым. **10.** Старадрукаваныя кнігі. **11.** Трэба асцерагацца, калі ён – Юды. **13.** «Сястра» загадкі. **15.** Карл Маркс назваў бы яго базісам. **18.** Адметны свіст. **19.** Натуральны антыдэпрэсант. **22.** Жылплошча феадала. **23.** «Ой, ... мая, // Чатыры аборкі. // Хачу – дома заначую, // Хачу – у Хадоркі» *(прыпеўка).* **25.** Тканіна, створаная будучымі матылькамі. **26.** Бывае снегавай, каменнай, базарнай. **27.** Не дачка.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Аляксандр ШМІДТ.




Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.




Міхаіл ЗНАЙДЗЮК.

## Думкі ўголас

- Баба з воза — іншая лезе!
- Гарэлка не дае адказаў? Дык пра пытанні ўжо не ўспамінаюць!
- Калі апоўначы да песіміста грукае ў дзверы шчасце, той набірае 102.
- Першы — кухарыць. Апошні — мые посуд. Вось сэнс «залатой сярэдзіны».
- Сабака мае права быць сабакам. Але ж не абавязаны!
- У адну дуду можна дзьмуць з процілеглых бакоў.
- Ані жонкі, ані хаты... Дурань шклянкаю багаты.
- Авечка, што ўяўляе сябе ваўком, значна больш небяспечная, чым воўк, што ўяўляе сябе авечкай.
- Калі губляеш галаву, рызыкуеш шмат чаго страціць.
- Часцяком той, хто ганарыцца добрым сэрцам, проста мае дрэнны зрок.
- Цяжэй за ўсё змяніць уражанне, якога не зрабіў.
- Калі захочаш трапіць у рай, найперш мусіш зрабіцца мёртвым.
- Чым меней думаеш, тым болей аднадумцаў.
- Вечны рухавік не стварыць. Затое вечных тармазоў — процьма!
- Калі хочаш пазмагацца за правы, спачатку выканай абавязкі.
- Сапёр ідзе павольна. Ды лепш яго не абганяць...
- Песіміст альбо мае рацыю, альбо прыемна здзіўлены.
- Заўжды дапамагаў — забудуць. Аднойчы адмовіў — прыгадаюць...
- Калі жыцця ўжо скончыў школу, гранітны маеш атэстат.
- Ніхто не мае абавязку нарадзіцца, а вось памерці павінен кожны.
- Мы вельмі рэдка робім крок наперад, не атрымаўшы выспятка пад зад.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*



# БЫВАЙЦЕ, МАЙСТРА...



Здараецца ж такое: чацвёртага чэрвеня я толькі сабраўся патэлефанаваць Барысу Лазаравічу Кавалерчыку і расказаць, як адпачыў у санаторыі «Белая Вежа», адкуль толькі што вярнуўся, бо, ведаю, чакае: перад маёй адпраўкай туды ён пажадаў мне добра падлячыцца і адпачыць. «Потым раскажаце...» (Хоць і знаёмы больш чым трыццаць гадоў, былі на «вы». Чаму так? Я маладзейшы за Лазаравіча намнога — вось, здаецца, і ўвесь адказ). А тут раптам званок ад яго: высвеціліся знаёмыя лічбы на канцы нумара: 75. Апярэдзіў, дакараю сябе, няёмка атрымалася — мне ж, як маладзейшаму, трэба было зрабіць гэта першаму.

Узяў трубку, а калі пачуў жаночы голас, адразу здагадаўся: больш ніколі я не пачую разважлівы, нетаропкі, памяркоўны голас сябра. Чалавека, які ў сваім паважаным узросце (20 чэрвеня яму споўнілася б 84 гады) часта скардзіўся мне і непакоіўся, што падае тыраж «Вожыка», крытыкаваў бібліятэкі, якія адвярнуліся ад часопіса, пытаўся, чаму «ЛіМ» не друкуе старонку сатыры і гумару... Як мог, я суцяшаў гэтага паважанага мною творцу: маўляў, не ад нас залежыць, шаноўны, у стольным Мінску ёсць разумныя людзі — разбяруцца. Яго ж гэта не задавальняла, ён падказваў нейкія хады, як падняць той жа вожыкаўскі тыраж... А неяк знайшоў у падручніку па матэматыцы свайго ўнука няправільна складзеную задачку, адразу патэлефанаваў мне: як жа так? Куды складальнікі і выдаўцы гэтых падручнікаў глядзяць? Крытычную заметку ён потым надрукуе ў «Вожыку»...

Вось адкуль бяруцца, падумалася мне тады, у Барыса Лазаравіча афарызмы! У яго ж матэматычны склад розуму. Плюс літаратурны талент. Усё сышлося, спалучылася... Мяркуйце самі: майстар спорту па шашках, суддзя рэспубліканскай катэгорыі па шашках і шахматах, мае вышэйшую педагагічную адукацыю. Настаўнічаў, працаваў на прафсаюзных пасадах у Гомелі, у абласным фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва.

Помніцца такі выпадак. Пяць гадоў назад памерла яго жонка, і дачка забрала бацьку жыць да сябе. А падпіска была аформлена, вядома ж, на яго хатні адрас. І Барыс Лазаравіч перад тым, як павінен быў выйсці «Вожык», рэгулярна тэлефанаваў мне, цікавіўся, ці ёсць ужо часопіс, каб дарэмна не ехаць да паштовай скрыні на другі канец горада.

Я абяцаў сам яму паведаміць, калі мне прыйдзе «Вожык», маўляў, не турбуйцеся. Аднак ён знаходзіў тады нейкую іншую прычыну, каб патэлефанаваць. Відаць, думаў, а раптам закруціўся ў калаўроце дзён і забыўся пра часопіс. Тады я ў канцы нашай размовы абавязкова казаў: «А «Вожыка» пакуль няма». Ён быццам апраўдваўся: «Ды не, гэта я не таму званіў...» Дыпламат ён быў цудоўны.

Адну са сваіх «жыццёвінак» я прысвяціў і Барысу Лазаравічу. Збіраўся неяк у Рагачоў на творчую сустрэчу да землякоў, а ён, выслухаўшы мяне, параіў узяць з сабой і жонку: «Хай бы і яна развеялася. Ёй, ведаю, таксама было б прыемна». Тая «жыццёвінка» заканчвалася ў мяне так: «Эх, Лазаравіч, добрая ты душа! Я зразумеў яго, як, мажа, ніхто іншы: год колькі назад Лазаравіч страціў жонку і надта цяжка прывыкае да адзіноты. І ці наогул зможа ён калі да яе прывыкнуць?..»

Але адзінокім ён усё ж не быў. Выгадаваў дзвюх цудоўных дачок. Да яго гарнуліся многія гомельскія літаратары, цанілі і шанавалі за мудрасць, талент і таварыскасць. Да апошніх сваіх дзён Барыс Лазаравіч удзельнічаў у літаратурных мерапрыемствах, якія ладзіліся ў нашым абласным цэнтры. Калі ўжо па стане здароўя не мог прыйсці, абавязкова прабачаўся, апраўдваўся. Прасіў, каб я перадаў ягоныя словы. Я ж адчуваў, як нялёгка было яму гэта зрабіць, і жадаў хутчэйшай папраўкі.

У Барыса Кавалерчыка ёсць такі афарызм: «Жыццё можа быць бурным, але лепей яму не выходзіць з берагоў». Ягонае жыццё было, бясспрэчна, цікавым. Імя пісьменніка-сатырыка і гумарыста шырока вядома не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. На ягоным рахунку больш за тры тысячы афарызмаў, надрукаваных у 52-х перыядычных выданнях СССР, краін СНД і Беларусі. Ён выдаў тры кнігі, у якіх змешчаны аўтарскія афарызмы, гумарэскі і вершы. Адна з іх, «Игра слов», была адзначана літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон». Барыс Лазаравіч быў ганаровым членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Да апошняга для з'яўляўся не толькі аўтарам часопіса «Вожык», але і «Литературной газеты» (Расія), якая ў свой час назвала яго майстрам кароткай фразы.

Бывайце, майстра... Наша беларуская пісьменніцкая сям'я страціла неардынарнага творцу, часопіс «Вожык» — таленавітага аўтара, а я — сябра...

**Васіль ТКАЧОЎ.**

***6 чэрвеня 2019 года***

Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса сатыры і гумару «Вожык» глыбока смуткуюць з прычыны смерці вядомага пісьменніка, даўняга аўтара і шчырага прыхільніка выдання Барыса Лазаравіча КАВАЛЕРЧЫКА і выказваюць шчырае спачуванне яго родным і блізкім.




## *Рак*

Аддае перавагу душэўнаму і ўтульнаму адпачынку.

Любіць дом і сваіх родных, часта сумуе па сваяках. Лепшае баўленне часу для Рака — паездка ў госці да блізкіх.






Анастасія СКАРКО.

16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс

№ 7 (1570), 2019 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Алена КЕДА *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры),* Анастасія СКАРКО *(мастацкі аддзел).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефон галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 244-92-37, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны, 748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ, Бажэна ГАНУШКІНА

Падпісана да друку 09.07.2019. Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79. Ул.-выд. арк. 3,48. Тыраж 569 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект». ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.



### Адказы на крыжаванку *(стар. 20-21)*

**Па гарызанталі: 2.** Самапас. **8.** Манета. **9.** Вяселле. **12.** Вутка. **14.** Базар. **15.** Скарн. **16.** Вада. **17.** Дула. **20.** Скула. **21.** Дзіця. **24.** Краля. **28.** Усмешка. **29.** Сатыра. **30.** Рэклама.

**Па вертыкалі: 1.** Сакавік. **2.** Сава. **3.** Месца. **4.** Палка. **5.** Смех. **6.** Сны. **7.** Каханне. **10.** Старадрук. **11.** Пацалунак. **13.** Адгадка. **15.** Споднік. **18.** Посвіст. **19.** Смяхота. **22.** Замак. **23.** Цешча. **25.** Муар. **26.** Баба. **27.** Сын.

# Вакол кола



Алег КАРПОВІЧ.







Мікола ГІРГЕЛЬ х 2.

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381.**



Жадаю, каб гарэза-«Вожык»
У сто разоў тыраж памножыў,
Каб пазбаўляў ён нас заўжды
Ад песімізму і нуды!

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2019 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе**:
індэкс 74844, цана 5 рублёў 74 капейкі,
індэкс 01380, цана 4 рублі 72 капейкі,
індэкс 748442, цана 16 рублёў 44 капейкі,
індэкс 01381, цана 13 рублёў 23 капейкі.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**



9 770132 595002 19007